ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 108(5290)
Чацвер, 20 верасня 2001 года

Кошт у розніцу — 80 руб.

Гімназічны рух

## Новы статус — новыя патрабаванні

З першага верасня 2001 года ў Мінску яшчэ тры сярэднія агульнаадукацыйныя школы сталі гімназіямі. Новы статус — заўсёды новыя патрабаванні.

Адна з гімназій была створана на базе 192-й сярэдняй школы, якая з 1989 года працавала з музычна-харавым, харэаграфічным, мастацкім і тэатральным ухіламі. За гэты час у ёй былі створаны ўзорны канцэртны хор, узорны тэатр "Лік", ансамбль народных інструментаў, сем танцавальных калектываў. Вучні школы — дыпламанты конкурсаў, у тым ліку і міжнародных, іх можна пачуць і ўбачыць на канцэртах у філармоніі, на гарадскіх святах, яны ладзяць дабрачынныя канцэрты.

Але новыя павевы часу падказалі, што вучні маюць патрэбу ў іншых, дадатковых, адукацыйных паслугах. "Акрамя эстэтычнай адукацыі неабходна матэматыка, інфарматыка, замежныя мовы", — падкрэсліла Надзея Аляксееўна Шпак, дырэктар гімназіі №192. У 1998 годзе школа № 192 стала школай года на гарадскім конкурсе. Яе ўзровень дасягнуў той меркі, якая дазволіла прэтэндаваць на статус гімназіі. Знайшлася падтрымка з боку кіраўніцтва адміністрацыі Маскоўскага раёна, і 20 чэрвеня 2001 года сярэдняя школа № 192 была пераўтворана ў гімназію. Яна атрымала ліцэнзію, якая адкрывае шырокія магчымасці. Але гімназія потым павінна прайсці яшчэ атэстацыю на якаснае выкладанне.

Што з'явілася новае? Самае галоўнае — створаны тры пятыя гімназічныя класы, у якіх замежная мова будзе выкладацца на павышаным узроўні, будзе працягнута практыка эстэтычнага навучання і выхавання. Уступныя экзамены праходзілі і на пачатку верасня, паколькі дзеці яшчэ ў жніўні вярталіся з адпачынку. Конкурс пры паступленні ў гімназічныя класы быў дастатковы: на 76 месцаў было пададзена 102 заявы.

Акрамя таго, у гімназіі адкрылі профільныя восьмыя класы: эканамічны, прававы, агульнаэстэтычны і дзесятыя: эканамічны, прававы. Пры гэтым быў створаны і базавы дзесяты клас з мэтай даць магчымасць усім вучням атрымаць агульную сярэднюю адукацыю. У гімназіі №192 абавязкова застанецца эстэтычная адукацыя. Ёсць неабходная матэрыяльная база, кваліфікаваныя настаўнікі. "Мастацтва павінна прайсці праз душу кожнага дзіцяці", — лічыць дырэктар Н.А.Шпак. "Самае галоўнае не навучанне і выхаванне — а развіццё асобы, якое сёння складаецца з навучання дзяцей самастойна здабываць веды", — працягвала яна. Так, дзяцей трэба навучыць працаваць з падручнікамі, кнігамі, камп'ютэрам. У гэтым дапамагаюць новыя тэхналогіі — модульнае, праектнае навучанне. Задача настаўніка, па-першае, самому псіхалагічна перабудавацца, зразумець, што не толькі ён з'яўляецца носьбітам ведаў, сучасны настаўнік павінен даць вучню інструментарый (дзе можна і неабходна збадываць веды).

У працэсе выхавання істотную ролю адыгрывае эстэтычная адукацыя. У гімназіі працуе цэнтр цікавых спраў, вядзецца прафесійная падрыхтоўка куратараў, ці класных кіраўнікоў. Усе працуюць разам — і вучні, і настаўнікі. Акрамя таго, навучанне ўзаемінам праходзіць па ланцужку: старшакласнікі — сярэдняе звяно — пачатковая школа. Дзеці самастойна наладжваюць святы, існуе валанцёрскі рух.

Але ёсць і цяжкасці. У прыватнасці, па наладжванні кантактаў з бацькамі вучняў, якія не надта хочуць прымаць актыўны ўдзел у выхаванні сваіх дзяцей. Асноўная прычына — празмерная занятасць на працы. А школа ці гімназія павінна рыхтаваць дзіця да жыцця ў сям'і. У новым навучальным годзе праблема зближэння з сям'ёй будзе прыярытэтнай у гімназіі.

У педагагічным калектыве гімназіі № 192 109 настаўнікаў, з якіх 72 — выкладчыкі першай і вышэйшай катэгорыі, да таго ж у гімназіі працуюць выкладчыкі педагагічнага універсітэта, кансерваторыі, універсітэта культуры. Першая і асноўная задача настаўнікаў — даць сваім навучэнцам якасныя веды, яны павінны сфарміраваць пункт гледжання як бацькоў, так і вучняў на тое, што ў чалавека заўсёды павінна быць патрэба ў вучобе. Не важна дзе: у школе, каледжы, вучылішчы або ВНУ.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: урок інфарматыкі ў 8-м эканамічным класе вядзе В.В.Бязмен; на ўроку матэматыкі ў гімназічным 5"В" класе з В.Б.Муравіцкай; заняткі ў класе фартэпіяна з Андрэем Сярчэнем вядзе Н.М.Валкаватава.

**Фота Ю.БОНДАРАВА.**

Міжнароднае супрацоўніцтва

## Дамы і надзеі — дзецям

Восем сучасных двухпавярховых катэджаў, цалкам мэбляваных, аснашчаных бытавой тэхнікай і іншым неабходным начыннем, літаральна праз месяц сустрэнуць сваіх гаспадароў. Прызначаны гэтыя новыя будынкі для васьмі сямейных дзіцячых дамоў.

Такім чынам, амаль завершана будаўнічая частка сумеснага праекта Беларускага дзіцячага фонду і міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Надзею і дамы - дзецям" (Вялікабрытанія). Рэалізацыя гэтай задумы абышлася ў 200 тысяч долараў ЗША. Але ж гэта - справа не аднаго дня. Работа ў гэтым напрамку вядзецца ўжо даволі даўно.

Першыя сямейныя дзіцячыя дамы з'явіліся на Беларусі ў канцы васьмідзесятых, калі яна яшчэ была ў складзе СССР. Сям'я, што брала на выхаванне пяць ці больш дзяцей-сірот, атрымлівала такі статус пасля разгляду пытання органамі мясцовай улады. Яна павінна клапаціцца аб дзіцяці да ягонага паўналецця, дзяржава - забяспечыць сямейны дзіцячы дом усім неабходным, падтрымліваць яго ў належным стане. Маці атрымоўвала заработную плату і грашовую дапамогу на кожнае дзіця. Яна з'яўлялася педагогам-выхавальнікам, і ёй залічваўся працоўны стаж. Але неўзабаве Саюз разваліўся, узнікла шмат цяжкасцяў - эканамічных, фінансавых і г.д., і развіццё такой формы дзіцячых дамоў спынілася.

Беларускі дзіцячы фонд, які ўтварыўся пасля распаду СССР з беларускага аддзялення Дзіцячага фонду імя Леніна, на працягу 11 год у межах праграмы "Цёплы дом" аказваў дапамогу раней створаным дзіцячым дамам. Пабудаваць жа новыя — не хапала сродкаў. Але ўжо ў пачатку 90-х гадоў фонд пачынае наладжваць сувязі з міжнароднай дабрачыннай арганізацыяй "Надзея і дамы - дзецям", якая фінансуе будаўніцтва дамоў для дзяцей-сірот. Яе ўзначальвае палкоўнік у адстаўцы, кавалер ордэна Брытанскай імперыі Марк Кук. Дарэчы, ён пайшоў з арміі, калі ўбачыў, як у выніку вайны ў Босніі пакутуюць дзеці.

Упершыню прадстаўнік гэтай арганізацыі наведаў Беларусь у 1996 годзе. На працягу некалькіх год вывучаліся магчымасці нашай краіны як партнёра. Вядома, размова ішла аб немалых грошах. Рызыкаваць не хацелася. Ды і чуткі хадзілі пра Беларусь розныя. Вынікам шматгадовых назіранняў з'явілася падпісанне ў мінулым годзе пагаднення аб будаўніцтве трох дамоў. У межах так званага пілотнага праекта, кошт якога склаў 60 тысяч долараў, набыта жыллё для сямейных дзіцячых дамоў Янкоўскіх і Міхалёвых у Дзяржынску, Кундзікавых у Клічаве. Леташні вопыт брытанскія партнёры палічылі паспяховым, таму сёлета супрацоўніцтва пашырана.

"Сямей, што жадаюць стварыць дзіцячы дом, сёння больш, чым колькасць дамоў, якія мы можам ім прапанаваць, — расказвае віцэ-прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Аляксандр Васільвіч Трухан. — Атрымаць жа статус сямейнага дзіцячага дома не так проста: мясцовы выканаўчы камітэт павінен гарантаваць, што сям'я гэтага вартая. Яе вывучаюць псіхолагі, інспектары і іншыя спецыялісты. Дарэчы, сем'і, што ў кастрычніку атрымаюць новае жыллё, ужо вызначаны..."

У сям'і Сянцовых з Бабруйска — чатырнаццаць дзяцей, з якіх восем усыноўленых, тры — прыёмныя. Іх дзіцячы дом створаны дванаццаць год назад. Маці Тамара Аркадзьеўна — закройшчыца, бацька Уладзіслаў Анатольевіч — механік-вадзіцель. Сям'я гэтая вельмі творчая: усе дзеці добра малююць, вышываюць, займаюцца батыкам. Але ў іх старым доме не было належных умоў для творчасці. У іхнім новым катэджы, дзе цяпер завяршаецца рамонт — вялікая майстэрня, у якой ёсць усё патрэбнае для гэтага начынне.

Дзесяць дзяцей выхоўваюць Валянціна Аляксееўна і Валерый Іванавіч Кароткія. Сям'я жыве ў Кіраўскім раёне. Дзеці тут старанныя, працавітыя. Але жыллёвыя ўмовы сям'і даволі праблемныя: у доме сыра, цесна. Нічога, новы ўтульны, прасторны дом ужо чакае іх.

Хутка адсвяткуе ўваходзіны і сям'я Шклярыкаў. Гэтым летам яны, адгукнуўшыся на акцыю дзіцячага фонду "Падарым сонца дзятве", узялі да сябе на аздараўленне двух пяцігадовых дзетак з прытулка. Такога ж узросту іх сын Мікіта. Час адпачынку хутка прабег, але расставацца не хацелася. Жылі як адзіная сям'я. І навошта гэтае "як", падумалі бацькі. Яўген і Вераніка засталіся тут. Дарэчы, бацькі зусім маладыя - ім няма яшчэ трыццаці год.

"Калі мы прыязджаем у сямейныя дзіцячыя дамы, дык бачым, што цяжка заўважыць розніцу паміж дзецьмі ўласнымі і прыёмнымі, — расказвае Аляксандр Васільевіч Трухан. — Яны ўсе выраўноваюцца ў развіцці. А калі іх бралі са школы-інтэрната, дык самы мяккі дыягназ іх быў — затрыманне псіхічнага развіцця. Цяпер яны добра вучацца ў школе, у іх цудоўныя паводзіны: за невялікі прамежак часу змены ў лепшы бок вельмі прыкметныя". Дзецям будуць дапамагаць і сачыць за іх далейшым лёсам дзіцячы фонд і дабрачынная арганізацыя "Надзею і дамы - дзецям". Таму гэта не разавая акцыя, а сапраўдны клопат пра чалавечае жыццё.

Некаторыя, праўда, бачаць тут нейкую карыслівасць, думаюць, што сем'і бяруць гэтых дзяцей дзеля грошай ці паляпшэння жыллёвых умоў. Але тым, хто падазрона ставіцца да гэтага пытання, віцэ-прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Аляксандр Васільевіч адказвае так: "Вазьміце, калі ласка, самі пяць ці больш дзяцей-сірот і ладзьце якія сабе хочаце карыслівыя планы".

Акрамя таго, трэба памятаць, што сям'ю, перад тым, як даверыць ёй дзяцей, даволі грунтоўна правяраюць, вывучаюць. Ды й жыллё становіцца ўласнасцю сям'і не адразу. На працягу пятнаццаці год дом застаецца належыць Беларускаму дзіцячаму фонду. Калі бацькі добрасумленна ставяцца да сваёй справы, калі з боку фонду, органаў апекі, усіх іншых структур, якія кантралююць становішча дзяцей, няма ніякіх прэтэнзій да дарослых на працягу 15 год, дом аддаюць сям'і. Калі ж ёсць парушэнні, выканаўчы камітэт можа пазбавіць яе статуса сямейнага дзіцячага дома, і дарослыя тады павінны пакінуць дом. Да дзяцей сюды прыйдуць іншыя людзі. Такім чынам, патрэбныя меры засцярогі прыняты.

"Гэта адзін з праектаў, рэалізацыя якога прыносіць вялікае задавальненне, — сцвярджае Аляксандр Васільевіч. — Таму што ён канкрэтны. Тут адразу бачна, куды ўкладзены сродкі. Дом будзе вельмі доўга служыць людзям".

І няхай ён будзе для дзяцей не толькі "жылплошчай", своеасаблівым сховішчам, у якім чалавек са сваімі слабасцямі і недахопамі будзе закрывацца ад сусвету, а месцам, дзе можна гадзіну ці дзве блытана тлумачыць маці ўласную канцэпцыю светаўспрымання ці скардзіцца на тое, што "жыццё не ўдалося", месцам, дзе можна бессэнсоўна-прымірана ўтаропіцца ў вакно на даўно знаёмы вулічны пейзаж і разважаць над спрадвечным пытаннем "ці ёсць жыццё на Марсе?", напрыклад. Дома можна і радавацца, і сумаваць, і бурклівa скардзіцца на тое, што надакучыла гэтая будзённасць, шэрасць, аднастайнасць. Але на ўласным вопыце ведаю, як уся істота напаўняецца бясконцай тугою, калі думаеш пра тое, што вымушаны будзеш доўгі час правесці на чужыне, далёка ад бацькоўскага дома.

Дык вось, калі б такім домам стаў для ўчарашніх дзяцей-сірот сямейны дзіцячы дом, пра большае і марыць не трэба. Як будзе ж на самай справе — пакажа час. А пакуль што - рыхтуемся да ўваходзін. Добрай справе - дабрасладвенне!

**Вольга ЗАЙКІНА.**

## "Настаўніцкая газета" — для чытачоў у IV квартале

*Паважаныя чытачы!*

*Афармляючы падпіску на "Настаўніцкую газету" на IV квартал гэтага года, вы дакладна будзеце ведаць, што на яе старонках можна прачытаць матэрыялы пра:*

*— II з'езд настаўнікаў, які пройдзе 2-3 лістапада 2001 г.;*
*— падзеі, якія адбудуцца ва ўстановах, арганізацыях адукацыі;*
*— праведзенне рэформы школы;*
*— лепшых педагогаў;*
*— сучасныя методыкі навучання;*
*— сацыяльныя праблемы педагогаў, навучэнцаў, студэнтаў;*
*— праблемы выхавання;*
*— філасофскія, псіхалагічныя аспекты педагагічнай дзейнасці;*
*— падзеі, з'явы культурнага жыцця, спорту.*
*— адукацыю за мяжой.*

*Таксама будуць друкавацца:*

*— тэсты адзіных экзаменаў у Беларусі і Расіі (спецыяльны выпуск);*
*— тэматычныя старонкі: "Айчына", "Сям'я", "Кнігарня";*
*— інтэрв'ю з прадстаўнікамі сістэмы адукацыі, заслужанымі работнікамі, цікавымі людзьмі;*
*— юрыдычныя кансультацыі;*
*— пісьмы чытачоў.*

Выставы

# Калі мастак...

**_Выстава апошніх твораў Георгія Паплаўскага атрымалася, бадай, самай нечаканай за ўсё творчае жыццё народнага мастака Беларусі._**

Калі мастак, і не проста мастак, а выдатны Майстар, чые палотны робяць гонар не аднаму тузіну музеяў у многіх краінах свету, вас запрашае на куфаль піва, наўрад ці ўстоіць перад гэтакай спакусай нават самы закончаны "цвярэзнік-язвеннік". Калі Ён просіць вас прымерыць "венецыянскую" маску ды паглядзець праз яе на тутэйшы свет, наўрад ці адмовіцца зрабіць гэта нават самы гарачы патрыёт Бацькаўшчыны. Калі Ён прапаноўвае вам сябе ў якасці целаахоўніка з вострава Балі, наўрад ці паспрабуе запярэчыць гэтаму нават самы непадступны "Ван-Дам-як-дам"...

Усё гэта дэманструе і дорыць аматарам мастацтва ў галерэі Міністэрства замежных спраў Георгій Паплаўскі — народны мастак Рэспублікі Беларусь, правадзейны член Нацыянальнай акадэміі навук, правадзейны член Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэат міжнароднай прэміі імя Джавахарлала Неру, кавалер ордэна "Дружбы народов" — няхай ужо даруе мне чытач такі доўгі пералік ягоных рэгалій, але не мог я прапусціць аніводнага з гэтакіх высокіх і пачэсных званняў, як і не магу не сказаць адразу, што ўсе мае "калі" ва ўступным слове прадыктаваныя не чым іншым, як ягонымі творамі, прадстаўленымі на выставе: "Запрашэнне на куфаль піва", "Венецыянскія маскі", "Целаахоўнік з вострава Балі"... І, вядома ж, не толькі гэтымі.

А мастацтва, як ні круці, — рэч усё ж вельмі суб'ектыўная. І таму хай ад сусветна вядомага імя Георгія Паплаўскага ніколі ўжо не адняць такія яго выпрабаваныя і часам, і прасторай творчыя "візітоўкі", як "Індыйскі дзённік" ці "Браслаўскі альбом", і няхай не для аднаго пакалення беларусаў ён застанецца перш за ўсё графікам-афармляльнікам твораў Купалы, Коласа, Куляшова, Быкава, Мележа, Адамовіча, Шэкспіра, Пятраркі і многіх школьных падручнікаў, — я, пэўна, заўсёды ўжо буду меркаваць пра Паплаўскага менавіта па гэтай ягонай выставе. Дэкаратыўнай. Камернай. Рарытэтнай...

"Я склаў гэтую калекцыю пераважна не з сацыяльных твораў. Хаця 50 гадоў да гэтага я працаваў як грамадзянін. Нам вельмі доўга гаварылі, што трэба працаваць для народа, а той народ неяк і не надта хваляваўся, гледзячы на нашы сацыяльныя палотны. Камерныя ж работы... Яны, можа быць, нават і больш патрэбныя... Хоць сабе для інтэр'ера...", — сказаў Георгій Паплаўскі на прэзентацыі.

Ну, скажам, з "інтэр'ерам" вы, Георгій Георгіевіч, усё ж загнулі, хоць і не адмовіш: інтэр'ер у холе Міністэрства замежных спраў, пакуль будуць вісець там вашыя работы, сапраўды будзе шыкоўным! А ў мяне для вас з гэтакай нагоды ёсць словы рускага "срэбнага" паэта Сяргея Гарадзецкага:

*Назвать, узнать,*
*сорвать покровы*
*И праздных тайн*
*и ветхой мглы.*
*Вот первый подвиг.*
*Подвиг новый —*
*Живой земле*
*пропеть хвалы.*

Дык вось, дзякуй Вам, Георгій Георгіевіч, за два подзвігі, што Вы здзейснілі ў беларускім мастацтве!

А мне застаецца толькі дадаць: цяперашняя экспазіцыя палотнаў Паплаўскага — двойчы юбілейная, паколькі адбываецца ў юбілейны для мастака год (сёлета Георгію Георгіевічу споўнілася 70), і адначасова з'яўляецца дзесятай па ліку выставай прац лепшых беларускіх майстроў пэндзля ў сценах знешнепалітычнага ведамства.

**Мікола ЧЭМЕР.**

НА ЗДЫМКАХ: Георгій Паплаўскі; унучка Г.Паплаўскага Ганна ля карціны "Ганна"; "Венецыянскія маскі"; з чарнобыльскай серыі.

**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ, БЕЛТА.**





# "Фатограф — перш за ўсё сведка эпохі..."

**_У доме Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі прайшла фотавыстава "Невер — зямля неверцаў", прысвечаная аднаму з самых прыгожых гарадоў Францыі. Яе прадстаўляла фотамастачка Манік Тур'е-Прэмеры — дачка вядомага П'ера Прэмеры, які пачаў сваю прафесійную кар'еру фатографа яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. Наш карэспандэнт сустрэўся з Манік Тур'е-Прэмеры і задаў ёй некалькі пытанняў._**

**— Мадам Манік, дынастыя прафесіяналаў заўсёды захапляе сваёй адданасцю абранай справе. Як сталася, што вы прадоўжылі захапленне бацькі і зрабілі яго сваёй прафесіяй?**

— Магазін на вуліцы Лафает, 32, дзе я жыла, служыў маёй сям'і адначасова і домам, і месцам працы. З ранняга дзяцінства я глядзела, як здымае мой бацька. Падчас першай сусветнай вайны ён ужо валодаў фотамайстэрняй. Па расказах бацькі, кліентамі былі англічане і амерыканцы, якія неаднаразова прапаноўвалі яму перабрацца працаваць у Новы Свет, дзе яго маглі ацаніць па заслугах. Аднак П'ер Прэмеры вельмі любіў Францыю і да канца жыцця так і не пакінуў Невер. Ён не ўмеў рабіць камерцыйныя здымкі, яго работы перадавалі людзям любоў да роднай зямлі, прыроды, навакольнага свету ды і самой фатаграфіі. Не дзіўна, што я пайшла па яго слядах...

**— А як адбылося ваша далучэнне да фотасправы?**

— Калі мне споўнілася шэсць гадоў, бацька падарыў мне маленькі фотаапарат. Я тады спрабавала рабіць фатаграфіі самастойна, але ў мяне мала што атрымлівалася. Пазней зразумела — калі буду толькі глядзець, як здымае бацька, гэтага будзе недастаткова. Потым мінула яшчэ доўгіх дзесяць гадоў, перш чым я вырашыла, што гэтая справа стане маёй будучай прафесіяй. У 16 гадоў бацька ўзяў мяне ў вучаніцы, і я тры гады вывучала, як правільна праяўляць плёнку і пячатаць фатаграфіі, выбіраць месца для здымак, каб зняць добры пейзаж або зрабіць удалы партрэт, і многае іншае. Гэта цэлая навука...

**— Наколькі я ведаю, ваша другое захапленне — маляванне. У вас ніколі не ўзнікала жаданне змяніць прафесію фатографа на іншую, напрыклад, мастака?**

— Я зрабіла некалькі спроб намаляваць паўнацэнныя карціны, але гэта было не пробай пэндзля, а, хутчэй, дадаткам да маёй прафесіі фатографа. Бо для таго, каб быць добрым мастаком, трэба цудоўна ведаць чалавечы твар, мускулы, цела. Неабходна ўмець перадаваць выраз твару, вачэй... Менавіта дзеля гэтага я і займалася малюнкам.

**— Лічыцца, што сучасная відэаздымка лепш перадае жыццё. Як прафесіянал вы можаце абвергнуць гэта? Якія адчуванні ўзнікаюць у вас, калі вы глядзіце на фатаграфію?**

— Фатаграфія — гэта перш за ўсё магчымасць адлюстраваць імгненне, пакінуць яго назаўсёды ў памяці чалавека. Калі мы ў чарговы раз глядзім на стары фотаздымак, мы як бы нанава перажываем тыя моманты, адкрываем нешта новае, асаблівае, тое, што зраднілася з нашымі думкамі і пачуццямі.

**— Як вы ставіцеся да каляровай фатаграфіі, бо вы некалі здымалі толькі на чорна-белую плёнку?**

— Ёсць сюжэты, якія лепш рабіць або ў колеры, або ў чорна-белым варыянце, у залежнасці ад таго, што ты хочаш сказаць. Звычайна колер нам прыносіць столькі пачуццяў, колькі хочацца выказаць словам, і здымак можа ўжо з-за няправільнага колеру атрымацца няўдалым. Калі гаварыць пра любімыя колеры, то мне больш падабаюцца цёплыя, пастэльныя, колеры світання і захаду сонца.

Сапраўды, калісьці я рабіла здымкі толькі ў чорна-белым выкананні. Але новыя тэхналогіі прымяняюцца толькі ў колеры, з'явілася лічбавае пячатанне, і я іду ў нагу з часам. Акрамя таго, зрабіць чорна-белую фатаграфію такой якасці, як было ў сярэдзіне 50-60 гадоў, вельмі складана: яна атрымліваецца або вельмі дарагой па сабекошце, або недастаткова добрай. Лепш ужо рабіць каляровыя.

**— Ці былі ў вас сітуацыі, калі вы шкадавалі, што не ўзялі з сабой фотаапарат?**

— Вядома, такія моманты былі. І фатаграфіі, якія я ўжо амаль бачыла на паперы, але так і не зрабіла, прыгажэйшыя за тыя, якія ўжо ёсць. Мы вельмі часта сустракаем цікавы твар, яркі блік на вадзе або іншыя рамантычныя рэчы... Дзіўна, але яны застаюцца за кадрам.

**— Звычайна фатограф здымае з захапленнем тое, што бачыць упершыню, напрыклад, замежнае жыццё. Дарэчы, вам даводзілася здымаць у іншых гарадах?**

— Я наведала шмат краін: Канаду, ЗША, Грэцыю, Егіпет, Алжыр, Швейцарыю, Германію — і кожны раз знаходзіла краявіды, якія найбольш адпавядалі майму ўнутранаму стану душы. Вакол столькі цікавых прадметаў і з'яў, што іх нельга не заўважыць.

**— Паўстагоддзя прафесійнай кар'еры фатографа наклала пэўны адбітак на ваша светаўспрыманне. А за апошнія дзесяць гадоў, так званы час перамен, у вашай свядомасці штосьці змянілася?**

— Безумоўна, маё светаадчуванне змянілася, і цяпер я здымаю не так, як дзесяць гадоў назад. Часам мне даводзіцца фатаграфаваць тое, што нават балюча бачыць. Але фатограф — перш за ўсё сведка сваёй эпохі, я проста абавязана гэта рабіць.

**— Гэтаму навучыў вас бацька?**

— Не, гэта абавязак кожнага, хто бярэ фотаапарат не дзеля забавы...

**— А ці было што-небудзь у вашай вучнёўскай практыцы пяцьдзесят гадоў таму, што вы запомнілі на ўсё жыццё?**

— Самае галоўнае правіла, якому навучыў бацька — паважаць людзей і тое, што ты здымаеш. Нельга рабіць гэта з камерцыйнага разліку, каб атрымаць прыбытак. Трэба быць адкрытым і абавязкова працаваць сумленна.

**— Гэтаму вы, працягваючы дынастыю фотамайстроў, вучыце сваіх дзяцей і ўнукаў?**

— Мае сыны навучыліся многаму, нават працавалі ў фоталабараторыі, але фатаграфія для іх засталася ўсяго толькі захапленнем. Затое ёсць унук, які ў два гады ўзяў фотаапарат, націснуў на кнопку і зрабіў цудоўны здымак. Пакуль яму цяжка трымаць фотаапарат, але, магчыма, ён яшчэ здзівіць свет сваёй творчасцю...

**Гутарыў Ігар КАНДРАЛЬ.**

P.S. Аўтар выказвае ўдзячнасць студэнтцы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Таццяне Маскалёвай за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага матэрыялу.

# Помнік кампазітару

Аўтару гэтага паланеза "Развітанне з Радзімай" — Міхалу Агінскаму — 1 верасня ў Маладзечне адкрыты першы ў свеце помнік.

Цікавасць да лёсу і творчасці выдатнага кампазітара і чалавека то памяншаецца, то павялічваецца з новай сілай. І невыпадкова. Ён быў не толькі слынным кампазітарам, але і дзяржаўным дзеячам Рэчы Паспалітай, у 1810 годзе атрымаў званне сенатара.

Помнік Міхалу Агінскаму адкрыты ва ўрачыстай абстаноўцы перад будынкам Маладзечанскага музычнага вучылішча. Выкананая ў бронзе фігура Міхала Агінскага (вышыня — каля 4 метраў) работы беларускага скульптара Валерыя Янушкевіча паўстала перад гледачамі. Пасля цырымоніі адкрыцця адбыўся святочны канцэрт народнага сімфанічнага аркестра вучылішча "Шляхамі Агінскага".

# "Краявід" прадстаўляе

У мінскім Палацы дзяцей і моладзі праходзіць IX гарадская выстава мастацкай фатаграфіі.

Дзесяцігадоваму юбілею фотастудыі "Краявід" і 15-годдзю аддзела выяўленчага мастацтва і дэкаратыўна-прыкладной творчасці мінскага Палаца дзяцей і моладзі прысвечана гэтая экспазіцыя. Тут прадстаўлены больш за 50 лепшых фатаграфій гуртkоўцаў і вучняў раённых цэнтраў пазашкольнай работы Мінска.

У выставачнай зале можна азнаёміцца не толькі з традыцыйнымі партрэтамі, архітэктурнымі аб'ектамі, але і ўбачыць дынамічныя рэпартажныя здымкі, незвычайны ракурс "карцінак" бытавога жанру.

Па выніках агляду аўтары трох лепшых работ будуць адзначаны прызамі.

**Пётр ШУБЯНОК.**

Музеі

# На вуліцы Садовай, поруч са школаю

**_Скарбонку набыткаў айчыннай культуры, адукацыі, вывучэння і асэнсавання гістарычнай спадчыны краіны, як вядома, множаць невялікія гарады, селішчы краіны. Дастаткова ўзгадаць Шчорсы, Нясвіж, Мір. Цяпер сярод іх можна смела назваць і Старыя Дарогі — адзін з райцэнтраў Міншчыны._**

Старадарожчына здаўна лічыцца лясным (дакладней, грыбным) і хлебным краем. Яе жыхары працавітыя і таленавітыя людзі. Шмат з іх плённа шчыруе дзеля росквіту культуры і адукацыі. Спашлюся на прыклад Анатоля Яфімавіча Белага.

Вунь з якой пары ён жыве ў сталіцы, рупным выкладаннем у БДУ здабыў сабе права на заслужаны адпачынак. Як кажуць, спажывай плён працы рук сваіх і галавы.

Ды гэта не ў характары Анатоля Яфімавіча. Ураджэнец Старых Дарог, шчыры прыхільнік іх і патрыёт, на сядзібе сваіх бацькоў, якая дасталася яму ў спадчыну, вырашыў стварыць мастацкі музей.

Зусім у кароткі час на вуліцы з такой мілагучнаю і паэтычнаю назваю — Садовая — адзін за другім паўсталі тры цагляныя будынкі. Фасад першага з іх упрыгожыўся разьбянаю шыльдаю "Мастацкі музей. Фонд Анатоля Белага".

Па словах Анатоля Яфімавіча, гэта ні многа ні мала, 500 квадратных метраў экспазіцыйнай плошчы. Пад музей ён згодны ахвяраваць нават частку жылога бацькоўскага дома.

І што дэманструецца ў музеі?

Заўзяты прыхільнік выяўленчага мастацтва, калекцыянер здолеў сабраць вялікую колькасць твораў — жывапісных работ, скульптур, тыя ж медалі (такой колькасцю іх не можа пахваліцца ніводны дзяржаўны музей).

Адметнасць збору ў тым, што ён тэматычна аб'яднаны, так бы мовіць, нацыянальным каларытам — прысвечаны гісторыі Беларусі, знакамітым яе дзеячам ад палітыкі, навукі, культуры. Шмат на якіх палотнах адлюстравана прырода краю.

Злачынна, лічыць Анатоль Яфімавіч, сабраныя творы мастацтва за шмат гадоў не прапанаваць увазе людзей, асабліва вучнёўскай моладзі.

Найперш такой думкай кіраваўся ў сваіх планах Анатоль Яфімавіч. Такім чынам, мяркую, у Старых Дарогах паўстаў музей чыста нацыянальнай накіраванасці, аналагаў якому няма ў краіне. А ўвогуле Анатоль Яфімавіч схільны лічыць правамерным і зразумелым, калі калекцыянер твораў мастацтва мае магчымасць дэманстраваць свае набыткі людзям. Думаецца, яго практыка стварэння музея найлепшым чынам паслужыць прыкладам для іншых збіральнікаў.

Прашу яго назваць лічбу экспануемых твораў.

— Пакуль, — адказаў Анатоль Яфімавіч, — экспазіцыя налічвае каля 1200 твораў жывапісу, скульптуры, медальернага мастацтва.

— А ці будзе экспазіцыя абнаўляцца?

— Вядома. Не дзеля пахвальбы скажу, што запаснік утрымлівае каля трох тысяч твораў, якія абавязкова будуць прапанаваны ўвазе наведвальнікаў.

Лічу вельмі сімвалічным тое, што "Мастацкі музей. Фонд Анатоля Белага" месціцца па-суседску, поруч з сярэдняй школай № 1 райцэнтра. Цікава, як гэта расцэньвае кіраўніцтва школы, у прыватнасці яе дырэктар Валерый Сакаў?

З размовы з Валерыем Адамавічам вынікала, што ён прыязна адносіцца да такога суседства. На яго думку, наведванне музея вучнямі пры праходжанні імі адпаведных тэм па беларускай літаратуры, гісторыі Беларусі дасць ім магчымасць выйсці, скажам, за межы падручніка, прычасціцца гаючаю прыгажосцю мастацкага твора, значна пашырыць свой пазнавальны кругагляд.

Лагічным будзе пытанне: творы якіх мастакоў знайшлі прыстанішча ў "Мастацкім музеі" ў Старых Дарогах?

У заснавальніка гэтай установы адразу загаварыў мастацтвазнаўца, дасведчаны ў тонкасцях работ айчынных жывапісцаў і скульптараў.

У першую чаргу гучаць прозвішчы мастакоў Леаніда Шчамялёва, Уладзіміра Басальгі, Яўгена Ціхановіча, Аляксея Пятрухны...

Ці папаўняюцца экспазіцыі ў музеі?

Так. Прычым няспынна. Зусім нядаўна ва ўтульным дворыку ля ўваходу ў музей быў устаноўлен бюст вядомага паэта Бацькаўшчыны Максіма Багдановіча, работы скульптара Сяргея Вакара. Бюст уяўляе сабою фрагмент помніка паэту ў сталіцы насупраць Тэатра оперы і балета.

...Штораніцы паэт вітае дзяўчынак і хлопчыкаў — старадарожскіх вучняў, якія кіруюць вуліцай Садовай да школы.

Ці не адмыслова гэта?

**Уладзімір НОВІК.**

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Святлана БЕНЬ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №5579
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 19.9.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.